# КАНСПЭКТ

№ 9 (8) лістапад 2000г.

Незалежнае выданьне полацкіх студэнтаў



Дзень студэнта. За сьвяточным сталом сядзяць Студэнт і Выкладчык.
“Зьвесялелы” Студэнт: - Прафесар, давайце вып’ем на брудэн-мн...нм-р-р-ршафт!
Выкладчык (крывячысь): - Гусь свіньні не сябра.
Студэнт: - Ну, тады я паляцеў.

**СТУДЭНТ!!!**

**Сёньня твой дзень. З гэтай нагоды Тост!!!**
**Міжнародная канфэрэнцыя “Што ёсьць каханьне?”**
**Прынята працоўная гіпотэза: Каханьне гэта хвароба!**
**Устае Медык і кажа: - Якая ж гэта хвароба, калі пры ёй выдзяляецца столькі энэргіі. Гэта праца!**
**Падымаецца Інжэнер і кажа: - Якая ж гэта праца, калі ўсё так прыгожа, вытанчана. Гэта мастацтва!**
**-Не! - крычыць Мастацтвазнаўца, - мастацтва – гэта для ўсіх, а каханьне толькі для двух. Гэта працэс!**
**-Які ж гэта працэс, - пярэчыць Юрыст, - калі ўсе бакі задаволены. Гэта навука!**
**Устае старэнькі сівы Прафесар: - Эх, якая ж гэта навука, калі апошні студэнт можа ёй займацца, а я не магу…**
**Дык, вып’ем жа за ВЕЧНЫХ СТУДЭНТАЎ!!!**

## Моладзь патрабуе пераменаў!

*12 лістапада ў нядзелю ў Менску прайшла акцыя "Моладзь патрабуе пераменаў". Па дадзеных арганізатараў ў акцыі прынялі ўдзел каля тысячы маладых людзей. Ужо за гадзіну да пачатку акцыі на станцыі мэтро "Акадэмія навук", дзе быў прызначаны сход, перасталі спыняцца цягнікі, трамваі праміналі прыпынкі. Карацей, улады прытрымліваліся звычайнага сцэнару, таму і хапун, які распачаўся пазьней ня быў нечаканасьцю. Менская міліцыя затрымала 112 найбольш актыўных удзельнікаў акцыі «Пераменаў!».*

*Завершыліся судовыя працэсы над Андрэем Мазоўкам і Ўладзімерам Самончанкам. Іх аштрафавалі на 20 мінімалак кожнага. Гэта па 72 тысячы рублёў. Хлопцы - студэнты. Стыпэндыі - 6 тысячаў. І выплаціць такую суму адразу для іх немагчыма. Зь іх могуць утрымліваць па 20% ад стыпэндыі, гэта па 1200. Да сканчэньня вучобы можна вылічаць...*

*Акцыя "Пераменаў" была падтрыманая ў 24 гарадох і мястэчках (Берасьце, Маладэчна, Баранавічы, Ворша). У Гародні сіламі міліцыі разагнаны несанкцыянаваны пікет "Пераменаў!", некалькі чалавек было затрымана.*

*Моладзь Наваполацку фактычна праігнаравала гэтую акцыю. Чаму?*

## Уладзімеру Караткевічу - 70

**26 лістападу спаўняецца 70 год найвялікшаму паэту і пісьменьніку Беларусі, годнаму сыну Бацькаўшчыны Ўладзімеру Караткевічу. Менавіта "спаўняецца", а не "споўнілася б", бо Караткевіч не памёр – ён тут побач з намі, ён жыве ў сваіх неўміручых творах. І гэтыя творы пакрысе ажываюць, зьяўляюцца побач з намі. Вось і ў Наваполацку існуе ваярска – гістарычны клюб "Чорны Война" – названы ў гонар аднаго з герояў непаўторных "Каласоў пад сярпом тваім".**

## "Вецер – мой брат..."

**Пад такой назвай 24 лістападу ў Гарадзкім Палацы Культуры адбыўся аўтарскі канцэрт ANISY (Сяржука Анішчанкі) з нагоды 37- годзя сьпевака. Павіншаваць творцу сабраліся сябры і прыхільнікі, сярод якіх былі вядомыя музыкі, тэатралы, работнікі культуры (Сяржук Казлоў, ALEN, прадстаўнікі "KREDO", "ЧАСу" і інш.).**

## Золак

***10 лістападу ў Цэнтры нацыянальнай культуры адбыўся сход літаратараў Наваполацку. Было вырашана сабраць больш прадстаўнічы сход з прапановай ўтварыць літаб'яднаньне (працоўная назва "Золак"). Нягледзячы на тое, што сабралася няшмат людзей, узрадавала тое, што побач з такімі мэтрамі як Вінцэсь Мудроў і Юрась Касьцюк, прысутнічалі прадстаўнікі моладзі (Вера Ліпская і інш.).***

*Хочацца дадаць, што Наваполацк мае добрыя традыцыі літаб'яднаньняў. Усе памятаюць "Крыніцы", якія пасамрэч былі культурніцкім цэнтрам гораду. Па даведкі зьвяртайцеся па тэл.55-25-92 (Людзьміла Мікалаеўна).*

# Падарожжа па кнігарнях

***Ці даўна ты, шаноўны дружа – студэнт заходзіў у кнігарню? Не, піва і кампакты там не прадаюць. Але зазіраць туды час ад часу таксама карысна, тым больш, што кнігарняў у нашым горадзе ажно тры! Калі ня ведаеце, трэцяя – "Деловая кніга" – каля аптэкі "Рамонак".***

Першае, што ўражвае, калі ты туды(у кнігарню) заходзіш – багацьце выбару. Якіх толькі кніжак там не прапаноўваюць! Падаецца, што самы патрабавальны чытач можа задаволіць свой вытанчаны густ. Найбольш шанцуе юрыстам, эканамістам, гісторыкам ды філёзафам спэцыяльнае літаратуры па гэтых дысцыплінах процьма(Нажаль, юрыстам шанцуе так-сабе – большсьць літаратуры расейская і да нашых умоваў не падыходзіць). На паліцах можна знайсьці мноства даведнікаў, дапаможнікаў, слоўнікаў і энцыкляпэдыяў, ёсьць шмат тэхнічных, мэдыцынскіх дый іншых прафіляваных выданьняў. Аматарам мастацтва прапаноўваюцца выдатныя альбомы з рэпрадукцыямі, гурманам – тамы кулінарных рэцэптаў. Нават для самых прадзьвінутых праграмэраў тое сёе знойдзецца. Яркія вокладкі, выбітная паліграфія – ўсё гэта вабіць і прыемна здзіўляе вока. А зараз, дружа, калі ты ўжо зьбіраесься пабегчы ў кнігарню і скупіць там усю літаратуру мусім папярэдзіць – кошты там ня проста кусаюцца – яны адразу загрызаюць. Насьмерць! Меней чым за тысячу родненькіх рублікаў ты можаш набыць, бадай што, толькі паэтычны зборнік, ці дзіцячую кніжку – расфарбоўку, дый і тое напэўна ня ўсялякую. За добрае якаснае выданьне прыйдзецца аддаць ня меней за палову стыпухі. Табе сорамна, што твая стыпендыя даўно асела ў касе "Чэбурэчнай"? Дык вось, ведай - ня півам адзіным жывы студэнт. Паспрабуй завітаць у кнігарню проста так, на малюнкі паглядзець. Тым больш, што ў адрозьненьне ад музэя, каб паглядзець, у кнігарні ня трэба плаціць грошы.

Пасьля такога жыцьцярадаснага экскурсу ў родныя кнігарні застаецца толькі спадзявацца, што калі небудзь мы з табой будзем заходзіць у кнігарню каб набыць кніжку, а ня толькі каб на яе паглядзець...

***Вера Ліпская.***

# Найстарэйшаму Інтэрнату НПІ-ПДУ СТУКНУЛА 33 ГАДЫ!!!!! З Днём народзінаў ТРОШКА!!!!

**Пад час сьвяткаваньня Дня студэнта ў "Трошцы" наш карэспандэнт прапанаваў яе жыхарам і наведвальнікам сказаць, што яны думаюць аб гэтым сьвяце і павіншаваць каго пажадаюць.**

**Вольга, Каця, Ульяна 99-ВС.**
*Віньшуем з самым клясным і вясёлым сьвятам (канешне толькі для сапраўднага студэнта). Што пажадаць? Жадаем як заўсёды, усяго, усяго, усяго...*
*А самае галоўнае жадаем здароўя, шчасьця. Будзьце заўсёды самімі сабой. Каб падчас Дня Студэнта ў вас заўсёды была добрая кампанія, зь якой вы б маглі адзначыць гэтае сьвята. І яшчэ добрага настрою!!!*

---

**Дзяніс 98-ЭП**
*Віншую ўсіх студэнтаў Плянэты са сьветлым Сьвятам. Жадаю добра яго адсьвяткаваць, не трапіць тварам у салату.*

---

**Алекс 98-БК**
*Я ўсіх віншую са сьвятам, і тых нармалёвых студэнтаў, якія не абцяжарваюць сябе навуковай працай і прасіджваньнем у бібліятэцы, і тых, хто сканчвае ўнівэр з "чырвоным" дыплёмам і пасінеўшымі ад стомленасьці вачыма.*
*Сябры – студэнты, будзьце шчасьлівыя! Любові вам, посьпехаў і вясельля! І выдатных сэсіяў!*

---

**Марына 98-ЭП**
*Віншую ўсіх студэнтаў усяго сьвету, а ў асаблівасьці Віталіка, групу 98 ЭП, прафілак ПДУ (заезд лістапад - 2000) жадаю добра адсьвяткаваць.*

---

**Віталь 98-ПР 1**
*Насамрэч, гэта найвялікшае сьвята для нас.*
*Віншую ўсіх-усіх!!!*
*Найперш, родную групу й сяброў па інтэрнаце і навогул, тых, хто мяне ведае.*
*Ну, каб не апошні раз...*

## *Прыкольнае сьвята*

Адным разам зайшоў я ў "Трошку" да сяброў. На ўваходзе мяне спыніў надпіс:
***Нам сегодня недосуг -***
***Пригласили мы подруг.***
***День Студента***
***светлый праздник,***
***заходите в наш заказник!***
Ня меньш арыгінальны вершык, нават 2, было зьмешчана на дзьвярах буфету:
***Белорусский общепит***
***Твой поддержит аппетит***
***От такой поддержки***
***Могут быть задержки.***
І другі:
***Хочешь вареной картошки?***
***Есть она в буфете "Трёшки"***
***Рыба есть, и чешуя***
***А спиртного... нет совсем!***
Ну-ну – падумаў я аб невядомым паэце і рушыў на сьвяточны канцэрт. Але, напэўна, арганізатары вырашылі дабіць гасьцей вершамі свайго "паэта - песеньніка," бо на ўваходзе ў дысказалю я прачытаў:
***Мы под Вирус и Земфиру***
***Отрываемся всю ночь***
***Через год родится, точно***
***Может, сын, а может, дочь.***
Ў падобным стылі быў і верш на дзьвярах відэязалі, дзе "парачкам" была дадзена мажлівасьць паглядзець розную лабуду. Нажаль, канцэрт быў не такі вясёлы, як гэтыя вершы! Парадавалі хіба сьцёгны вядучай. ***Ве ОК.***

---

***У "трошцы" новы камэндант. Замест усімі любімай Алены Іванаўны мы займелі Касамюка Аляксандра Аркадзевіча – чалавека, які зь няпоўных 46 год 27 аддаў войску. Хлопцы сьлёзна праводзілі Алену Іванаўну і выказалі спадзяваньне, што наш інтэрнат не ператворыцца ў казарму.***

**Марына 99-ПР-4**
*Увогуле, гэта вельмі добра, што ў нас студэнтаў ёсьць сваё сьвята. Стаўленьне да роднага нашага сьвята можа быць толькі станоўчым. А ўвогуле я лічу, што бавіцца трэба часьцей. А таму жадаю ўсім студэнтам роднага ПДУ весела правесьці час і вялікага здароўя ўсім на суботу.*

---

**Студэнты гр. 98-ГЕО - 2**
*Віншуем з Днём Студэнта, жадаем самага найлепшага!*

# ТОСТ ВЫХАВАЦЕЛЯ

***Шаноўныя студэнты, дарагія мае хлопцы (патрэбнае падкрэсьліць). Віньшую вас з Днём студэнта! Спадзяюся, што шмат – хто з вас у будучым увойдзе ў Гістарычную Хроніку (ня "хронікі", а Хроніку) рознага маштабу. Хтосьці з вас ужо зараз закладае (не за каўнер) падмурак сваёй будучай пабудовы, і што гэта будзе зараз цяжка сказаць: -магчыма – гістарычнае дасьледваньне Полацкай Зямлі; -магчыма раскрыцьцё злачынства стагодзьдзя, абарона невінаватага; -магчыма, новая эканамічная праграма, якая выратуе ня толькі галадаючых Паволжжа і краіны Афрыкі, але і нас; -а можа, гэта нейкае вынаходніцтва ці проста арыгінальнае інжэнернае рашэньне; -а можа, стварэньне выбітнага архітэктурнага збудаваньня, якое папоўніць сьпіс цудаў сьвету, бо імя яму – ПРЫГАЖОСЬЦЬ. Дык будзем заўсёды імкнуцца да прыгожага і захаваем для гісторыі нашы добрыя адносіны.***

Вольга Віктараўна.

# Deep Purple у Менску



***5 лістападу упершыню ў Беларусь прыязджаў адзін з самых культавых гуртоў XX стагоддзя, ад музыкі якога фанацелі нашыя бацькі, і які ня стаў меньш папулярным зараз праз 30 з гакам год пасьля першага выхаду на сцэну. На канцэрт куміраў зьехаліся людзі з усяе Беларусі і ня толькі. Былі там, натуральна, і нашыя студэнты. Аднаго зь іх мы і папрасілі распавесьці аб уражаньні ад відовішча. Знаёмцеся: Аляксандар Бухараў.***

- ***Алесь, як уражаньне?***

- Super-super! Трэба сказаць, што патрапіць на канцэрт ***DP*** было маёй марай, - і вось гэта здарылася. Шкада канешне, што не было Рычы Блэкмара, (замест яго граў Стыў Морс), астатнія ж музыкі былі з “залатога” складу гурта.

- ***Я ведаю, што шмат-хто ня змог пайсьці на канцэрт з-за вялікага кошту квіткоў (25000-150000), ці былі пустыя мейсцы?***

- Па маіх падліках засталося 50-70 мейсцаў вольнымі , бо квіткі сапраўды вельмі ня танныя для Беларусі, але той, хто быў у Палацы спорту ведае, што заля там не малая – толькі танцпол на 2000 чалавек.

- ***Хто складаў асноўную частку слухачоў?***

- Людзі за 30, тыя для каго ***DP*** – напамін аб маладосьці і ў каго ёсьць грошы на квіток. Наогул, людзі былі з усёй Беларусі і ня толькі. Дарэчы, дзяўчаты з маскоўскага фан-клюбу зь якімі я пазнаёміўся, казалі, што ня бачылі больш дзікай краіны, хоць шмат - дзе ўжо былі. Асабліва дасталі паводзіны ахоўнікаў, якія нават у гатэлі, дзе жылі музыкі не давалі зь імі сфатаграфавацца. Акрамя таго, жудасна была зроблена сцэна. Ужо пасьля выступу “разагрэвачных” “А.Сьпіцын & Чэрмэн” выйшлі ангельскія рабочыя і заклеілі скотчам пазы паміж лістамі ДВП на падлозе, каб чальцы ***DP*** не заваліліся пад час сьпеваў. Яшчэ хадзілі чуткі, што гурт пратрымалі 16 гадзін на беларускай мытні. Цікава, што ў іх шукалі?

- ***Куміры не падманулі надзеяў?***

- Ні ў якім разе! Выкладка была 100% - ай, што і адрозьнівае ад нашых музыкаў, эмоцыі ў ***DP*** так і пёрлі, ну і пот таксама цёк. Канцэрт плянаваўся па часе 1 г. 30 хв. а цягнуўся крыху больш за 2 гадзіны. Музыкі двойчы выкідалі ў залю медыятары і барабанныя палачкі, за якія ўзьнікалі сапраўдныя бойкі. На працягу канцэрта было выканана блізу 18 кампазыцыяў (сярод якіх былі Woman from Tokyo, Speed King, Highway Star, Smoke on the Water, Lazy), былі і імправізацыі, устаўкі з Rolling Stones і Led Zeppelin.

- ***Ці атрымалася ўзяць аўтографы?***

- Так, яшчэ да канцэрта я падыйшоў у гатэль “Плянэта”, дзе спыніліся музыкі, там і ўзяў аўтограф у гітарыста гурта Стыва Морса, амаль пачаў пісаць на маёй афішцы і бубнач гурта Ян Пейс, але ўмяшаўся беларускі ахоўнік, які не дазволіў гэта зрабіць…

- ***Як рэагавала заля?***

- Ну-у, трэба сказаць, што эмоцыі аднялі ў гледачоў-слухачоў мову, таму нічога выразнага пачуць было нельга. Ва ўсялякім разе мужык, што стаяў за маёй сьпінай, за час выступу змог вымавіць толькі: “Ах…ець!”

- ***Яшчэ раз хочаш патрапіць ?***

- Натуральна! Але баюся, што гэта адзін з апошніх тураў гурта-легенды. Нажаль.

- ***Што ж, дзякуй за размову. Посьпехаў!***

- Дзякуй.

***Гутарыў Сымон Музыка***

# Алег Міцяеў у Віцебску

Шмат хто з больш дарослага пакаленьня студэнтаў і выкладчыкаў, якія займаліся турызмам, ці проста вандравалі з сябрамі па роднай Беларусі памятаюць словы адной з самых распаўсюджаных турыстскіх песьняў:"Изгиб гитары жёлтой ты обнимешь нежно…", песьню, якая ўжо даўна стала візытоўкай вядомага расейскага выканаўцы аўтарскай песьні Алега Міцяева. У адным з нумароў "Камсамолкі" я заўважыў аб' яву, паводле якой А.Міцяеў прыязджаў на Беларусь зь невялічкім двухдзённым турам. Першы выступ мусіў адбыцца ў Менску, другі – у Віцебску. 10 лістапада, а 19 гадзіне у Палацы культуры КІМ. Поўная заля нецярпліва чакала сьпевака. Варта адзначыць, што гэта ўжо другі выступ барда на Віцебшчыне.



Першы візыт адбыўся ў ліпені бягучага году, пад час правядзеньня фэстывалю "Славянскі Базар". Сам Міцяеў не "базарыў", а досыць сьціпла ў параўнаньні зь іншымі "зоркамі" даў адзін сольнік у КІМе. На гэты раз праграма аўтара складалася зь песьняў, большая частка якіх паходзіла з альбому "Алег Міцяеў. Лепшыя песьні", таксама прагучаў шэраг новых песьняў, прычым адна зь іх была прысьвечаная Віцебску. Увогуле аўтар прадэманстраваў выбітнае пачуцьцё гумару і красамоў'е. Замест заплянаваных дзьвух гадзін канцэрт цягнуўся тры зь лішкам гадзіны. Досыць невялікая заля на 1400 месцаў была запоўнена практычна цалкам, як высьветлілася пазьней, недзе 1/4 частка слухачоў прысутнічала на папярэднім канцэрце. З размовы з А. Міцяевым мы даведаліся, што ў ягоных творчых плянах ёсьць і наведваньне Наваполацку. Ён распавёў, што ўжо меў перамовы з прадусарскім цэнтрам, які ладзіць большасьць выступаў у Наваполацку. Так што застаецца толькі чакаць…

*Сяржук Балай.*

# Раней жылі людзі

За пяць гадоў свайго існаваньня гісторыка – культурны клюб "Княжыч" зьведаў шмат чаго і добрага і ня надта. Клюбу ўдалося пераджыць тыя часы, калі нядобразычліўцы паставілі на ім вялікі крыж: маўляў, быў "Княжыч" і скончыўся…

Але менавіта гэты год стаўся для клюбу пераломным, часам сапраўды "другога нараджэньня". Сьведчаньнем таму можа быць вандроўка ў Польшчу, аб якой "Канспэкт" ужо распавядаў, а таксама творчая вечарына "Княжычу", зладжаная ім 3 лістапада ў памяшканьні Цэнтру Нацыянальнай Культуры і Рамёстваў г. Наваполацка. Ідэя зладзіць канцэртовую праграму гурта не была спантанай. Справа ў тым, што ўжо стала традыцыйным сьвяткаваньне гадавіны клюбу - штогод 1 лістападу. Пад пільным кіраўніцтвам Натальлі Муляронак – лідэра сьпеўнае секцыі клюбу праводзіліся амаль "крывавыя" рэпетыцыі, але, нашчасьце, абыйшлося бязь стратаў. І вось, нарэшце, плёнам гэтай больш чым месячнай працы сталася вечарына пад інтрыгуючай назвай "Раней жылі людзі…" Выступ ня быў простым статычным сьпевам на сцэне – сябры "Княжычу" паспрабавалі зрабіць дзеяньне рухомым, зьменьлівым, як тая культура, што была рэпрэзэнтаваная ў сьпевах "княжычаў". Дзякуючы гэтаму імпрэза пераўтварылася ў сапраўдны фолькавы спэктакль – нарыс аб тым, як "Раней жылі людзі…". Аб іхных клопатах і радасьцях, шчасьці і горы. Вельмі ўзрушыў і ўзрадаваў той факт, што на імпрэзу прыйшло шмат старых сяброў. Прыемна, што "Княжыч" ведаюць і любяць тыя, каму неабыякавая нашая Спадчына. Для тых жа, хто ўпершыню завітаў на падобныя імпрэзы вечарына "Княжычу" будзе карысным дадаткам да ведаў аб традыцыйнай Беларускай культуры, і быць можа, запаліўшыся ў душы словамі з архаічных сьпеваў нехта з "новенькіх" вырашыць, што гэтая культура – ягоная.



***Няхай жа гэтая вечарына стане пачаткам новага жыцьця і імклівага творчага росту клюба! Шчасьлівага шляху табе, "Княжыч"***

***Вера Ліпская, Сяржук Балай.***

# Музыка ў кішэні




***Як Вы ўжо здагадаліся, гэты артыкул ёсьць працягам тэмы, распачатай у папярэднім нумары "Канспэкту" і на гэты раз ён прысьвечаны MD і MP 3 плэерам, падаецца таксама кароткі агляд крамаў, у якіх можна набыць апісаныя ў артыкуле рэчы.*** Трэцяя катэгорыя партатыва прадстаўлена адносна новым вынаходніцтвам на глебе лічбавых тэхналёгіяў – міні дыскам. У спадчыну ад CD плэераў міні – дыск узяў усе плюсы функцыянальнасьці. Але акрамя "сідзішнай" якасьці, вялізнай перавагай зьяўляецца мажлівасьць запісу і мантажу кампазыцыяў. Сам жа MD можна перазапісваць 1000 000 разоў бяз згубленьня якасьці!!! Вялікай перавагай зьяўляецца і тое, што сам MD-плэер па сваіх памерах не перавышае габарытаў звычайнай дыскеты 3,5", толькі што крыху таўсьцей. Запісваць можна ня толькі музыку, але і назву трэка, выканаўцу ды розную карысную інфармацыю. Кошт такіх апарацікаў вар'юецца ад 150 (бязь функцыі запісу) да 250 (з запісам і тым жа пультам). Прызнанымі вытворцамі MD плэераў зьўляюцца SONY (фірма – вынаходнік MD плэера) і PANASONIC, а таксама SHARP, тэхніка якога адной зь першых зьявілася на беларускім рынку.



І апошняй пакуль што катэгорыяй зьяўляюцца ну зусім новыя MP 3 плэеры. Галоўнай іх асаблівасьцю зьяўляецца тое, што ў мэханізме апарата няма рухомых частак!!! Музычная інфармацыя запісаная ў лічбавым выглядзе на спэцыяльную карту памяці ў кампутаровым фармаце MP 3. Па аб'ёме яны могуць быць дастаткова вялікія. На дадзены момант да 125 MB і нават болей! У "сьціснутым" выглядзе на адну карту памяці можна запісаць некалькі альбомаў ці зборнікаў любімых выканаўцаў. Важным момантам, які трэба ўлічваць пры набыцьці, зьяўляецца тое, што запіс новай музыкі на картку мажлівы ТОЛЬКІ! з дапамогай кампутара. Пры гэтым якасьць будзе амаль сідзішная. Варта адзначыць, што MD-плэеры - навіна на нашым спажывецкім рынку, тым больш, што кошты на іх вар'юющца паміж $150 і $300. Таму спэцыялісты ад аўдыё ня раюць сьпяшацца з набыцьцём навамоднай цацкі. Лепей пачакаць з паўгады, пакуль зьнізяцца кошты і палепшыцца тэхналягічнасьць і якасьць фармату. А вось тады ўжо і паглядзім, дакладней паслухаем, што гэта за цуд такі.

На гэтым бадай што ўсё. Варта на сёньня скончыць наш кароткі экскурс. Калі пасьля прачытаньня гэтага артыкулу ў вас зьявілася жаданьне набыць што небудзь гэткае, то застаецца толькі параіць, дзе гэта можна зрабіць. Па першае – гэта новая крама ў кнігарні "Усход". Завозы новай тэхнікі там адбываюцца штотыдзень, прычым апаратуру можна замаўляць па каталёгах. Крама выдае гарантыю на набытую апаратуру. Апошнім часам партатыўная аўдыётэхніка пачала зьяўляцца і на другім паверсе "Дома Кнігі", што насупраць спажывецкай крамы "Дзьвіна". Калі ж вы часта бываеце ў Менску, то тут да вашых паслугаў цэлая процьма фірмовых крамаў - самыя вялікія цэнтры: SONY на Маскоўскай і "Мультысыстэма" на Нямізе. Выбар партатыва там аграмадны – вочы разьбягаюцца, становіцца самотна і хочацца набыць усе прыгожыя і маленькія цацкі, якія тамака толькі ёсьць. Кошты, між іншым, дастаткова даступныя. Набываць можна як за родныя рублікі, так і за буржуйскія баксы, прычым за буржуйскія, як правіла, атрымліваецца таньней ( ведаю, бо сам набываў). Пасьля ўсяго застаецца толькі пажадаць посьпехаў і павіншаваць з удалым набыцьцём. Да сустрэчы!

***Сяржук Балай.***

# Inernet-Music

Інтэрнэт. Лепш бы яго ня бачыць, бо калі пабачаш і асэнсуеш, што гэта такое, дык адмовіцца ад яго будзе ну-у вельмі складана... але зрэшты, навошта адмаўляцца. Менавіта, таму я і прапаную вам рубрыку агляду цікавых інтэрнэт сайтаў, каб па магчымасьці спрасьціць вашую навігацыю ў гэтым бязьмежным акіяне інфармацыі.

Адной з найпапулярнейшых тэмаў для сайту ёсьць музыка, таму лягічна будзе прысьвяціць сёньняшні выпуск менавіта ёй.

Пачнем з роднага N.R.M., які зусім нядаўна выпусьціў свой новы альбом «Тры чарапахі», і мае прыехаць з проматурам у Наваполацак. Пра гісторыю і навіны гурту вы зможаце прачытаць на сайце ***www.nrm.home.by***. Ня дрэнны дызайн, гасьцёўня, конкурсы, лёгкая навігацыя гэта бясспрэчныя плюсы энэрэмаўскага сайту. Тут вы зможаце даведацца ўсё пра цяперашні тур, пазнаеце як набыць новы альбом і фактычна рарытэтны сінгал "Самотнік". Увага! У сьвеце альтэрнатывы падзея ¦ выходзіць новы альбом Мэрыліна Мэнсана. Шок-рокэр ужо даўна не частаваў сваіх фанатаў новымі творамі. А новы дыск «Holy Wood» мае стаць завяршаючай часткай ягонай аўтабіяграфічнай трылёгіі. Усё пра гэты рэліз вы даведаецеся на афіцыйным сайце гурту ***www.marilynmanson.com.*** Тутака вы пабачыце, як будзе выглядаць вокладка дыска, можаце скачаць сымбалі і татухі (аля мэнсан), фоткі, відэакліпы, артыкулы, інтэрвію і эсэ.

Выйшаў і новы альбом легенды рок-музыкі U2! А сайт гурту ***www.u2.com*** спазнаў

# Рэфлексіі з нагоды Дня студэнта

Самым сьветлым сьвятам нашага студэнцкага братэрства быў ёсьць і застаецца Дзень Студэнта.

З большага ўся восень, ад пачатку сэмэстру да першай атэстацыі праходзяць у чаканьні, у чаканьні нечага неверагоднага, захапляючага, цудоўнага. Калі вы, крый божа, думаеце, што рас..гільдзяі – студэнты нецярпліва чакаюць лекцыяў, ці сэмінараў, то вы жорстка памыляецеся. І тутака ўсе намаганьні выкладчыкаў, старастаў, дэканаў ды іншае адміністрацыі нашага ПДУ наладзіць т.з. "вучэбны працэс" абсалютова марныя – нармальная паўнавартая вучоба пачынаецца толькі пасьля тыдня піўнога "лячэньня" па матывах Дня Студэнта. Спадзяюся, што гэтае самае лячэньне засталося далёка ззаду, таму што пры ўсёй маёй павазе, пахмяляцца тыдзень – гэта крута. Тым больш, як сьцьвярджаюць медыкі, запой – першая прыкмета алкагалізму. А ўвогуле, каб я быў шчырым прыхільнікам афіцыйнай палітыкі беларускага ўраду ў цэлым і прэзыдэнта ў прыватнасьці, я б сьцьвярджаў, што Дзень Студэнта – гэта НАТАўская правакацыя, накіраваная на падрыў навуковага патэнцыялу краіны. Але, на шчасьце, Дзень Студэнта сьвяткуецца з хвалёнай славянскай шчырасьцю і маштабамі (Всё пропью, но флот не опозорю), таму рэдакцыйная рада "Канспэкту" лічыць Д С выключна Беларускім студэнцкім сьвятам, якое ўжо даўно трэба ўнесьці ў рэестар Выходных і сьвяточных дзён, такіх, як 6 верасьня, 2 лістапада, 15 ліпеня, 15 траўня, 25 сакавіка і інш.

Так што, адсьвяткаваўшы Дзень Студэнта давайма вучыцца, нават калі вучыцца вой як не ахвота, тым больш перад калядамі, перад новым 2001 годам, новым тысячагоддзем. Але нічога ня зробіш, дзеля таго, каб ня вылецець з унівэру студэнт ідзе на ўсё, нават на заняткі. Тым больш, што нашай Радзіме ў XXI стагоддзі спатрэбяцца адукаваныя спэцыялісты для працы па разьмеркаваньні ў Чарнобыльскай Зоне і калгасах роднай Віцебшчыны.

Сапраўдны студэнт



# З жыцьця студэнта анекдоты



Канун Дня Студэнта, ідзе студэнт з каністрай піва, думае, як ён зараз з сябрамі піўка пап'е.
На дарозе валяецца пустая бутэлька, студэнт пінае яе нагой, бутэлька разьбіваецца і зь яе вылятае джын.
Прасі, чаго хочаш, о мой збавіцель.
Студэнт – хачу, каб у гэтай каністры піва ніколі не скончылася. Джын пачараваў і зьнік.
А студэнт дагэтуль спрабуе каністру адчыніць…



Паштальён падыходзіць да дому і бачыць, як па двары бегае аграмадны дог, злы такі.
Гаспадыня крычыць з вакна – не бойцеся, ён кастрыраваны…
Паштальён – ды я ў прынцыпе, думаў, што ён укусіць можа…



Злавілі аднойчы злыя панкі брытага гопніка.
Пытаюцца: -Будзеш падла валасы адрошчваць?
Той: -Не, ня буду!
Павучылі трохі нагамі па галаве, зноў пытаюцца
Той: -Буду, буду, да плячэй адгадую
Зноў пачынаюць біць
Той: -Да пояса адгадую!!!
Усё роўна бьюць.
Той: -Ну халера з вамі, да зямлі…
Панкі, куляючы гопа нагамі: -Да неба трэба расьціць, да неба…



Прыходзяць два студэнты ў госьці да дзяўчыны.
Першы кажа:- Прабачце, а магу я папрасіць тапачкі, а то ў мяне ногі мёрзнуць?
Дзяўчына: - Каліласка, вазьміце. Зьвяртаючыся да другога:- Можа і вам даць, можа і ў вас ногі мёрзнуць?
Другі: - Дзякую, ня трэба - у мяне шкарпэткі цэлыя.



Біблія вучыць любіць бліжняга свайго.
А Кама – Сутра тлумачыць, як лепей гэта рабіць…

## Абвесткі*Віншаваньні

*Просім прабачэньня, паважаны Чытач, але артыкул "Аб нашых у Штатах", заанансаваны ў КАНСПЭКТ №7, пабачыць сьвет толькі ў наступным нумары.*

*ANISA, віншуем з Днём народзінаў! Шчасьця, Сяржук, плёну і посьпехаў. Сябры*

Кантактная адрэса: Наваполацак-8,
п/с 26, тэл/fax 55-32-22
E-mail:bamelc@usiaslau.lingvo.vitebsk.by

Канспэктавалі:
Заснавальнікі Андрусь Храпавіцкі,Віталь Броўка. Рэдакцыйная Рада: Андрэй Беллерт, Сяржук Балай, Валік Мажэйка.
Нумар выдадзены пры тэхнічнай дапамозе ГАКАІ «УсяслаўЧарадзей».
Выдаецца на правох рукапісу. *Наклад 299 асобнікаў*